Год IV. Красавік-Травень 1935 г. № 4-5 (40-41)




# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

## ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода . . . . 1 зл.

„ год . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Вільня. Красавік-Травень 1935 г. № 4-5 (40-41).

## *Хрыстос Васкрос!*



*Віншуючы гэтымі словамі ўсіх нашых паважаных падпісчыкаў і чытачоў, Рэдакцыя жадае ім усякага дабра, Уваскрасеньнем Хрыстовым нам спасланага.*

# ВЯЛІКДЗЕНЬ.

## ЭВАНГЕЛЬЛЕ
### ПАВОДЛЕ СЬВ. ІОАНА РАЗЬДЗЕЛ 1, 1—17, ЗАЧАЛА 1.

1. У пачатку было Слова і Слова было ў Бога, і Богам было Слова.

2. Яно было ў пачатку ў Бога

3. Усё праз Яго сталася, а без яго ня сталася нічога з таго, што сталася.

4 У ім было жыцьцё, а жыцьцё было сьвятлом для людзей.

5. А сьвятло сьвеціць у цемры, а цемра яго не агарнула.

6 Быў ад Бога пасланы чалавек, катораму імя было Іоан.

7. Гэты прыйшоў на пасьведчаньне, каб пасьведчаньне даць аб сьвятле, каб усе верылі праз яго.

8. Ня быў ён сьвятлом, але пасьведчаньне даў аб сьвятле.

9. Было праўдзівае сьвятло, каторае асьвячае кожнага чалавека, што на гэты сьвет прыходзіць.

10. На сьвеце быў і сьвет праз яго стаўся і сьвет яго не пазнаў.

11. Прыйшоў да сваіх, а свае яго не прынялі.

12. А тым, каторыя яго прынялі, даў моц, каб сталіся сынамі Божымі, тым, што вераць у імя яго.

13. Каторыя ня з крыві, ані з волі цела, ані з волі мужа, але з Бога нарадзіліся.

14. І Слова сталася целам і жыло паміж намі, і мы відзелі ягонуюславу, славу як адзінароднага ад Айца, поўнага ласкі і праўды.

15. Іоан пасьведчаньне дае аб ім і заклікае, кажучы: гэта той быў, аб каторым я казаў: «Каторы пасьля мяне мае прыйсьці, ён перада мною стаўся,

16. І з паўнаты яго мы ўсе ўзялі, і ласку за ласку.

17. Бо закон быў дадзены праз Майсея, і ласка і праўда сталася праз Ісуса Хрыста.»

---

*«Красуйся, ликуй и радуйся Іерусалиме, Царя Христа узрѣвъ изъ гроба, яко жениха происходяща». (3 стих. П.).*

Мае дарагія браты і сёстры, сярод сьвятаў у годзе, найбольшым ды найрадасьнейшым ёсьць Вялікдзень, Сьв. Пасха. Кожны хрысьціянін загадзёў рыхтуецца да спатканьня гэтага вялікага Сьвята: праз сьвятую споведзь ачышчае сваю душу ад грахоў, злучаецца з Хрыстом, прыняўшы Сьв. Прычасьце. Нават вонкава ў сваім жыцьці стараецца ад'значыць дзень Сьв. Пасхі, як дзень вялікае радасьці: абнаўляе сваю хату або пакой, купляе новую вопратку, запрашае ў госьці сваіх найбліжэйшых ды найдаражэйшых, дзеліцца з імі, чым хата багата. З усіх вуснаў выходзіць радасны водклік: „*Христосъ Воскресе*", у адказ кожны з радасьцяй паўтарае: „*Воистину Воскресе*". Вось праз гэтыя словы выяўляецца прычына радасьці для кожнага хрысьціяніна.

Сьв. Іоан Багаслоў, пачынаючы эвангельле, адразу, як арол, узносіцца на недасягальную вышыню думкі чалавечае, ён гэтак гавора аб Ісусе Хрысьце: „**У пачатку было Слова і Слова было ў Бога, і Богам было Слова. Яно было ў пачатку ў Бога. Усё праз Яго сталася, а без Яго ня сталася нічога з таго, што сталася**". (Іо. 1, 1—3).

Гэтымі словамі Сьв. Іоан Багаслоў коратка і глыбока сказаў, кім быў Ісус Хрыстос, кім быў Той, аб якім мае пісаць: „Хрыстос быў і ёсьць прадвечным Богам, праз яго і з яго ўсё што істнуе мае свой пачатак".

Ісус Хрыстос на пацьверджаньне свайго Боства рабіў цуды, якіх чалавек ніколі ня можа зрабіць: лячыў адным словам сваім боскім розныя хваробы, размнажаў хлебы, каб накарміць на пушчы тысячы галодных людзей, адным словам сваім уцішаў буры на моры, нават ускрашаў памёршых. Толькі Бог можа такія цуды рабіць.

Аднак з усіх цудаў найбольш вялікім ёсьць Яго ўваскрасеньне з памёршых. Сваёю перамогаю над сьмерцяю Ісус Хрыстос паказаў, што Ён запраўды ёсьць Бог.

Няма ніякага сумліву ў тым, што Ісус Хрыстос, будучы чалавекам, памёр. Аб гэтым сьведчыць Сьв. Пісаньне: Пілат, пераканаўшыся ад сотніка аб сьмерці, толькі тады выдаў Яго цела Язэпу і Нікадэму для паховін. Ніхто не сум-

ляваўся, што Ісус Хрыстос ужо ня жыве: нават жыды, што дамагаліся Яго сьмерці, гаварылі аб Ім Пілату, як аб чалавеку, што ўжо ня жыве: **„сабраліся архірэі і фарысэі да Пілата і гаварылі: Пане, мы прыпомнілі, што ашуканец той, як быў яшчэ жывы, сказаў: цераз тры дні ўваскросну“.** (Мацьв. 27, 62—63).

І вучні Ісусавы, вельмі сумавалі, што няма зімі Ўмілаванага Вучыцеля, памёр. Ідучы да мястэчка Эмаус, так кажуць вучні Хрыста падарожнаму, які да іх прылучыўся: **„выдалі Яго (Хрыста) архірэі ды начальнікі нашыя на прысуд сьмяротны і раскрыжавалі Яго. А мы спадзяваліся, што Ён ёсьць Той, што павінен збавіць Ізраіля; а да ўсяго гэтага вось ужо трэці дзень сяньня, як тое сталася“.** (Лук. 24, 20—21). Так, усе былі перакананыя, што памёр Хрыстос.

Дык і не магло быць інакш, пасьля такіх страшэнных мукаў, прыбіты да крыжа, ня мог Збаўца доўга жыць. Усякі сумліў у сьмерці выключае прабітае кап'ём Лонгіна сэрца. Ісус Хрыстос запраўды памёр ды быў пахаваны.

Аднак, паводле Сьв. Пісаньня, Збаўца нядоўга заставаўся ў гробе, на трэці дзень сваёю боскаю моцаю ўваскрос. Жанчыны, прыйшоўшы да гробу, убачылі адвалены камень і ангела на камені, які ім сказаў **„ня бойцеся, бо ведаю, што вы шукаеце Ісуса расьпятага. Яго няма тут: Ён уваскрос, як і сказаў, хадзеце, паглядзеце месца, дзе ляжаў Госпад“** (Мацьв. 28, 5—6).

Пасьля свайго ўваскрасеньня, Збаўца перад сваімі вучнямі часта паказваўся жывым. Калі яны нават ня верылі сваім вачом, — **„Ён сказаў ім: ці ёсьць у вас тут якая ежа? Яны падалі Яму частку печанай рыбы й сотавага мёду. І, узяўшы, еў перад імі.** (Лук. 24, 41—43).

Ня было ніякага сумліву, што Ісус Хрыстос уваскрос. Усе апосталы верылі, бо сваімі вачыма бачылі Яго; ня бачыў Хрыста ўваскросшага толькі Тамаш Апостал. Калі прыйшоў, дык усе з вялікай радасьцяй расказвалі яму аб Васкросшым Госпадзе. Аднак Тамаш не хацеў ім верыць. Пакуль, — кажа, — я сам ня ўбачу сваімі вачыма і не ўлажу рукі маей у бок Яго, не паверу.

**„І цераз восем дзён ізноў былі ў доме вучні Яго і Тамаш з імі. Прыходзе Ісус пры замкнёных дзьвярох, стануў пасярэдзіне і сказаў: мір вам! Потым кажа да Тамаша: дай сюды палец твой і паглядзі рукі Мае; дай руку тваю і ўлажы ў бок мой; і ня будзь няверуючым, але веруючым. Тамаш адказаў Яму і сказаў: Госпадзе Мой і Божа Мой“.** (Іо. 20, 26—28). Паверыў Тамаш, бо ўбачыў Хрыста. Багаслаўленыя аднак тыя, — кажа Хрыстос, — што ня бачылі, аднак паверылі.

Апосталы ды вучні Хрыстовыя, моцна былі перакананымі, што Ісус Хрыстос ёсьць Бог, асабліва праз вялікі цуд

ягонага ўваскрасеньня. Не шкадавалі сілаў ды працы на апавешчаньне Хрыста. Не зважаючы на перашкоды, ішлі ўперад, распаўсюджваючы па ўсім сьвеце Хрыстовае эвангельле. За веру ў Хрыста-Збаўцу аддалі сваё жыцьцё, бо, як ведама, усе апосталы, за выняткам Сьв. Іоана Багаслова, сваю веру ў Боства Ісуса Хрыста прыпячатавалі сваёй крывёй, сваей мучаніцкаю сьмерцяю.

Хай-жа для нас Вялікдзень, памятка Ўваскрасеньня Господняга, будзе ўзмацаваньнем нашае веры. Мы верым, што Ісус Хрыстос быў ня толькі чалавекам, але і праўдзівым Богам. Ягоная навука ёсьць праўдзівая, боская. Дзеля таго, усё тое, чаго вучыў Збаўца ды заўсёды вучыць праз Сьв. Царкву, ёсьць непамыльнаю праўдаю. Фундамантам нашае веры ёсьць Уваскрасеньне Хрыста з памёршых. Хайжа праз вялікую ўрачыстасьць Сьв. Пасхі гэты фундамант у нашай душы яшчэ больш узмацуецца, каб ніякая варожая сіла не магла яго нам зрушыць, і каб вера наша ставалася што раз жывейшай, мацнейшай.

Наш беларускі народ у паваенныя часы вельмі зьмяніўся, шмат і па вёсках цяпер разьвялося бязбожнікаў. Хто бліжэй гэтых так званых бязбожнікаў пазнаў, той можа сказаць, што бязбожжа яшчэ не запусьціла глыбока карэньняў у беларускую душу. Толькі вонкава, праз фанабэрыю, шмат хлопцаў, а нават некаторыя дзяўчаты выяўляюць сябе бязбожнікамі. У душы аднак яшчэ не бязбожнікі, гэта мы бачым на Вялікдзень. Вось прыклад: жыў у суседзтве ў адной вёсцы камуністы, каторы казаў, што ён ня верыць у Бога. Прыйшла Пасха, бачым і камуністы сьвяткуе. Апрануў новую вопратку ды выйшаў вясёлы на вёску. Сустрачае суседа, дык, ня думаючы доўга, весела паздраўляе суседа словамі: „*Христосъ Воскресе*", „*Воистину Воскресе*"— адказвае сусед і яны цалуюцца.

Падумайце, які-ж з такога камуністага бязбожнік, калі ён верыць у васкросшага Хрыста?

Так, дарагія браты беларусы, яшчэ не загінула ў нашым народзе вера ў Бога. Можна спадзявацца, што хутка прайдзе такая неразумная мода хваліцца бязбожжам. Уваскросшы Хрыстос хай уваскрасіць у нашым народзе веру ў Бога, а гэта вера стане задаткам шчасьця вечнага. Па сьмерці і мы калісь уваскросьнем, каб цешыцца поўным шчасьцем з Васкросшым Хрыстом. Амін.

*а Антоні.*



# Памяці Экзарха Леаніда Фёдарава.

7 сакавіка с. г. памёр на высылцы ў Вятцы экзарх сьв. Айца для расейцаў-каталікоў у Расеі. Памёр без сьвяшчэньніка, пахавалі яго добрыя людзі і сям'я, пры каторай жыў, таксама без сьвяшчэньніка.

Экзарх Леанід Фёдараў быў чалавекам вялікае навукі ды добры прамоўца. Ад 1917 году кіраваў каталікамі расейцамі ўсходняга абраду. Назначыў яго Экзархам Я. Пр. Мітрапаліт Шэптыцкі, будучы ў часе вайны ў Петраградзе, потымка гэта назначэньне зацьвярдзіў Сьв. Айцец.

У 1923 годзе разам з Архіяпіскапам Цепляком ды іншымі сьвяшчэньнікамі быў суджаны бальшавікамі ў Маскве. Аб гэтым працэсе многа пісалі. На судзе адмовіўся ад помачы адвакатаў, сам сябе адважна бараніў. Атрымаў прысуд, за выпаўненьне абавязкаў сьвяшчэньніка, на 10 гадоў астрогу. Пасьля адбыцьця прысуду на Салавецкіх Астравох быў высланы на пасяленьне ў Вятку. Арганізм ня мог вытрымаць мукаў і Экзарх Леанід Фёдараў перайшоў там, дзе ўжо ня будуць мучыць бальшавікі — бязбожнікі. Бальшавікі павялічылі лік мучанікаў за Хрыстову веру, каталікі ўсходняга абраду маюць яшчэ аднаго заступніка перад Госпадам Богам за сьвятую ідэю злучэньня хрысьціян.

„Вечная памяць“ мучаніку ды барацьбіту за Хрыста!

*Злучэнец.*

---

## *Прыдзі вясна...*

*Прыдзі вясна... прыдзі да майго сэрца*
*І разбудзі у ім жыцьцё нанова,*
*Няхай запаланее ў маёй душы-каберцы*
*Юнацкая усьмешка, як сонейка маёва.*

*Хай расьцьвітуць ізноў патоптаныя кветкі:*
*Любові, веры і надзеі, і прыкрасяць зноў*
*Маю душу, як агарод улетку,*
*Букетамі пахнючых, нязьнішчаных вянкоў.*



# Motu Proprio аб Камісіі „Pro Russia“ і аб выданьні літургічных кніг славянскага абраду.

У сакавіковым сшытку (1935 г.) „Acta Apostalica Sedis“ агалошана Motu Proprio аб Камісіі „Pro Russia.“ Падаём яе ў перакладзе:

„З якой сардэчнай прыхільнасьцяй адносімся Мы да народаў Расеі, сьведчаць ня толькі словы Нашыя і пісьмы, але перш за ўсё тое, што для дабра гэтага няшчаснага народу пры надараючайся аказіі Мы зрабілі. Калі ўжо той зямны недастатак так вельмі нас занепакоіў, то тым больш балюча адчулі мы агульны ўпадак моральнасьці, угнятаючы гэты народ і таму стараліся са ўзмоцненай стараннасьцяй паводле нашых сіл—аб тое, каб процi гэных шкодаў даць раду. У гэтай справе супрацоўнічала з Намі ў асаблівы спосаб „Камісія для Расеі,“ амаль перад дзесяцьма гадамі намі пакліканая да жыцьця; і вось ёй асобным Motu Proprio паручылі Мы ўсе справы, каторыя „адносяцца да Расейцаў, як да засяляючых бацькаўскую зямлю, так і да тых, каторыя знаходзяцца на выгнаньні“ (Cfr. Acta Ap. Sed., 1930, p. 153). У працягу гэтага кароткага часу Мы пераканаліся, што такая апостальская праца магла-б з Божай помаччу выдаць багатыя ўраджаі, а перш за ўсё, што нямала Расейцаў жадае справядлівасьці. Да разьвіцьця вельмі сьвятога гэтага прадпрыняцьця прычынілася разумная і нязвычайна карысная актыўнасьць Пр. Брата Міхала д'Эрбіны, тытулярнага япіскапа Іліонскага, выняткавае дасьведчаньне каторага, пастырская стараннасьць і шляхотная дбаласьць вельмі ў гэтай справе ад'значыліся. Калі, аднак, забракавала так карыснай помачы і супрацоўніцтва гэтага і іншых япіскапаў, і калі з дня на дзень узрасталі абавязкі, дамагаючыяся новых рашэньняў і новых плянаў, пастанавілі Мы надаць гэтай справе новы парадак, каб тым больш магла адпавядаць нарастаючым вымаганьням і каб ува ўсім была мэтазгодна ўложана. Па дакладным разважаньні справы, з уласнай ініцыятывы і дакладнай сьведамасьці, на аснове поўнай улады апостальскай, пастанаўляем і рашаем, каб толькі тыя справы і праблемы былі паручаны „Камісіі Pro Russia,“ каторыя адносяцца да Расейцаў, прабываючых у родным краі, аднак без нарушэньня павагі і права сьв. Конгрэгацыі для Ўсходняй Царквы, належачага ей згодна з канонам 257. Каб аднак дзела так вялікага значэньня, каторым кіраваць і апякавацца будзем па магчымасьці беспасярэдня, прынясло рэзультат, пастанаўляем, каб „Камісія“ гэта ўзалежнілася ад сьв. Конгрэгацыі для над'звычайных,

царкоўных справаў, сэкрэтар каторай мае быць адначасна старшынёй гэтай „Камісіі.“ Пастанаўляем, каб у лоне сьв. Конгрэгацыі для Усходн. Царквы паўстала асобная „Сэкцыя“, адданая тым усім, дзе-небудзь знаходзячымся, а вызнаючым абрад славянскі (названы так-жа славянска-візантыйскім), дык і тым Расейцам, каторыя знаходзяцца на выгнаньні. У разе патрэбы можна да гэтай „Сэкцыі“ выбраць, як Консультатараў, некаторых япіскапаў з тых епархіяў, на абшары каторых спатыкаецца ўсходні абрад.

Загадваем усё гэта на тое, бо жадаем, чутка сьцерагчы праслаўную традыцыю каталіцкай Царквы, каторая ў сьвятле праўды дзіўна зьмяшчае ў сабе рознаякасьць абрадаў, як-бы гармонійныя галасы адной мэлёдыі, што ўзносіцца з зямлі да неба. Хай нашыя Сыны, далёка заблудзіўшыся ад бацькаўскага дому, усьведамляць сабе, што, вяртаючыся да нас, маюць поўную свабоду захаваньня сьвятасьці свайго абраду, каторы прастарым языком і даўнасьцю цэрамоніі прыпамінае тыя шчасьлівыя часы, калі цэлы хрысьціянскі сьвет цешыўся аднэй верай, аднэй аўчарняй і адным пастырам. Моцна залежыць нам на тым, каб абрад славянска-бізантыйскі застаўся ненарушаным, а даведаўшыся, што Нашыя сыны гэтага абраду адчуваюць недастачу літургічных кніг, — пастанавілі Мы іх хутка выдаць. Зрэалізаваньне гэтага дэкрэту павяраем сьв. Конгрэгацыі для Ўсходняй Царквы, каторая да гэтай працы дабярэ сабе дарадцаў і супрацоўнікаў, якія ад'значаюцца ў гэтай галіне выдатнай компэтэнцыяй і стараннасьцю. Жадаем, каб з Нашых пастановаў актыўна палала пачуцьцё прыязьні і бацькаўскай апекі ня толькі для сыноў Нашых, каторыя ўжо вярнуліся, але і для тых, каторыя яшчэ ня прылучаны да аднэй аўчарні.

Пастанаўляем, каб гэта ўсё, што з уласнай ініцыятывы гэтым пісьмом Мы пастанавілі, мела праўную моц, што касавала-б усе праціўныя установы.

Дана ў Рыме у сьв. Пётры, 21 сьнежня 1934 году ў трынаццатым годзе Нашага Понтыфікату.“

*Папа Піус XI.*



# *МАЛІТВА.*

## *Адданьне ў апеку Найсьвяцейшаму Сэрцу Хрыстоваму усяго роду чалавечага.*

О, Ісусе Найсаладзейшы, Адкупіцель роду чалавечага, глянь на нас, да ног Тваіх пакорна прыпадаючых. Мы Твае і хочам быць Тваімі. Цяпер вось кожны з нас дабравольна аддаецца Найсьвяцейшаму Сэрцу Твайму, каб якнайцясьней злучыцца з Табою. Многія Цябе зусім ня знаюць, іншыя, згардзіўшы тваімі прыказаньнямі, самі ад Цябе адвярнуліся: зьлітуйся над аднымі і другімі, Ісусе Найласкавейшы, і пацягні ўсіх да Найсьвяцейшага Сэрца Твайго. Будзь нам Царом, о Хрысьце Божа, ня толькі верным, што ніколі ад Цябе не адступілі, але і блудным сыном, што Цябе пакінулі. Дай, каб яны чым хутчэй вярнуліся ў бацькаўскі дом, ды ня згінулі з бяды і голаду. Запануй над тымі, каторых або фальшывыя навукі ўвялі ў блуд, або гордая нязгода аддзяліла. Прывядзі іх у прыстань праўды і ў адзінства веры, каб хутчэй сталася адна стада і адзін Пастыр. Стань панам і тых, што блудзяць у цемры паганства і магамэтанства і прывядзі іх да сьвятла і панаваньня Божага. Глянь, нарэшце, і на патомкаў Твайго некалі выбранага народу; няхай і на іх зьліецца крыніцай адкупленьня і жыцьця тая Кроў, якую калісь яны на сябе прызывалі. Захавай Царкву сваю, Хрысьце Божа, і дай Ёй бясьпечную свабоду. Абдаруй усе народы мірам і ладам, ды дай, каб з усіх канцоў сьвету адзін паднімаўся голас: „Слава будзь Божаму Сэрцу, праз якое сталася нам збаўленьне. Цару Хрысту чэсьць і слава навекі“. Амін.

---

# Характарнае „Вѣрую“ расейскага народу.

Здарылася гэта ў Маскве.

Таварыш Луначарскі, бальшавіцкі камісар народнай асьветы, прамаўляў да вялікага натаўпу аб „прастарэлай веры ў Бога.“

— Вера ў Бога, гэта выдумка капіталістычнага сьвету, — казаў ён, — але мы справіліся з ёю!...

Усё болей і болей загараўся прамоўца ў сваіх вывадах, а калі скончыў, упоены сваёю вымоўнасьцю, пэўны ў сабе, пазволіў на кароткую 5-цьмінутную дыскусію.

І вось падняўся з натаўпу нейкі малады духоўны, на вока здавалася-б баязьлівы, от такі тыповы занядбаны поп.

Луначарскі глянуў на яго, з пагардай прыпамінаючы, што гаварыць можна толькі 5 мінут.

Духоўны ўзыйшоў на трыбуну, адвярнуўся да слухачоў і сказаў: „Браты і сёстры, **Христосъ Воскресъ!** – а ўвесь натаўп, як адзін чалавек, крыкнуў: **Воистину Воскресъ! —**

Ведама, сабраньне зараз-жа закрылі. Таварышу Луначарскаму, як аказалася, не памаглі кветкі ягонай мовы, надарма трудзіўся; два словы ціхага, нязнанага духоўнага перамаглі ягоныя вывады.

Вось, якую моц маюць словы веры, якая драмае на дне душы гэтага народу, толькі разбудзіць яе, даць свабоду і яна загарыцца ясным полымем.

Бедны расейскі народ!

Душаць ягоную веру, якая яшчэ ня згінула ад таго часу, калі быў ён дзіцянём аднае праўдзівае маткі — каталіцкае Царквы!

Пыха тых, на якіх Бог налажыў абавязак быць кіраўнікамі, вывяла яго з роднага дому і цяпер сохне з голаду ягоная душа і цела.

Адлучыўшыся ад маткі, не змаглі абараніцца ад ворагаў веры і Бога.

Прыйшоў соцыялізм, камунізм, бальшавізм, які меў заступіць людзям апеку і справядлівасьць Божую, і давёў да таго, што проціў усіх яго тэорыяў ствараецца ізноў кляса людзей, якія багацяцца, шалеюць, а маса народу гіне з голаду і плача ў няволі.

Што-ж рабіць, як памагчы нашым братом і сёстрам у Хрысьце?

Дайсьці да іх, каб будзіць у іхніх душах полымя веры і скіраваць на адну праўдзівую дарогу, цяпер яшчэ і ня ўсе можам, слухайма-ж хоць сьв. Айца і малітвай выпрашвайма ў Бога хутчэйшага ратунку для няшчаснага народу.

---

# З пісьма А. Верцінскага (Эстонія. Раквэрэ).

Праца тут няпрыцягваючая. Па 400 гадох зьяўляюся тут першым каталіцкім душпастырам. Штонядзелі маю чатыры пропаведзі: паэстонску, папольску, панямецку і парасейску. У гэтай мясцовасьці маю на паперы 20 каталікоў, але толькі пяцёх практыкуючых. У ваколіцы места, ў адлежнасьці 8 аж да 97 клм. жыве яшчэ каля 100 каталікоў, расьсеяных ў 12 мясцовасьцях. Прабываю тут пяты месяц; цярпеў вельмі ад холаду (дом мае тонкія сьцены, абітыя чорнай паперай); да тутэйшай стравы ня вельмі прызвычаены. Жыву тут з Братам Навратам, кухарам, арганістым

і адначасна сталяром. Конвэртытаў шмат ня маю: у працягу пяцёх месяцаў прыняў каталіцызм адзін пратэстант, згаласілася трох іншых, але адыйшлі. Цяпер тры жанчыны прыгатаўляюцца, але на Унію, бо зьяўляюцца праваслаўнымі. Здаецца, што будуць сталымі. У папярэдняй сваёй мясцовасьці працы, ў Пэснове, знайшоў 50 каталікоў, а па сямёх месяцах аддаў у рукі А. Капуцына 71. Але там была інтэлігенцыя, а тут галіта.

Горача прашу аб малітвы etc.

---

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Дубно.** Перад Вялікаднем 27 красавіка с. г. Я. Пр. Уладыка Мікалай Чарнецкі у Дубненскай Папскай Сэмінарыі пасьвяціў Адольфа Шніпа Т. І. родам з Менску ды Яфіма Мэльнычука з Крэмянца ў дыяканы, а Язэпа Гадуцэвіча з Друі ў сьвяшчэньнікі.

**Львоў.** У рэколекцыйным доме а.а. Езуітаў а. Пратаігумен А. Дуброўскі Т. І. 4—7 сакавіка г. г. даваў рэколекцыі для гр.-кат. сьвяшчэньнікаў.

**Таракане на Палесьсі.** А. Навіцкі варушыцца, праца ідзе ўперад, асаблівую зьвяртае ўвагу на дзяцей, стараецца з іх зрабіць добрых каталікоў усходняга абраду. За кароткі час выбудаваў ужо прыходзкі дом.

**Праваслаўная Царква ў Вышгарадку замкнёная.** З прычыны доўгіх спрэчак паміж парафіянамі і праваслаўным духоўнікам у вёсцы Вышгарадку, Крэмянецкага пав., ды бязупыннага згоршаньня жыхароў адміністрацыйная ўлада змушана была замкнуць царкву да аканчальнага супакоеньня. (ПАТ).

**Роўно на Валыні.** 7 красавіка г. г. а. праф. Неманцэвіч адправіў ў касьцёле Сьв. Літургію ўсходняга абраду. Народу было поўны касьцёл. Сьпяваная Літургія на прысутных зрабіла вялікае ўражаньне. Асабліва здаволены былі грэкакаталікі украінцы, якія вельмі прасілі, каб да Роўнага часьцей прыяжджаў сьвяшчэньнік усходняга абраду, выявілі нават ахвоту сваім коштам выбудаваць часоўню. Вельмі прыхільнае ў Роўным да уніяцкае акцыі лацінскае духавенства. Можна спадзявацца, што ў хуткім часе там паўстане вельмі паважная парафія.

**Люблін.** Даведваемся, што а. Д. Філіповіч, сьвяшчэньнік-беларус усходняга абраду, выявіў сваё пажаданьне ўсту-

піць у Таварыства Ісусава. Япіскап ягоны ўжо даў на гэта згоду. Усходняя галіна Таварыства Ісусавага, такім чынам, — дасьць Бог — павялічыцца яшчэ на адну выдатную сілу.

**Вільня.** Як кожны год, так і ў гэтым 18, 19 і 20 сакавіка беларусы каталікі адправілі рэколекцыі (гавеньне) пад кіраўніцтвам а. А. Станкевіча — у касьцёле Сьв. Мікалая.

25.III беларусы сьвяткавалі 17 ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Дзяржавы. Адбылося набажэнства за беларускі народ у касьцёле Сьв. Мікалая і ўвечары акадэмія.

Кіраўніком касьцельнага беларускага хору, пасьля сьмерці А. Стэповіча, ёсьць інж. А. Клімовіч. Гэты чалавек і так мае ўжо вельмі многа абавязкаў і яшчэ ўзяў адзін на сябе. Ён жыве толькі для беларускае справы.

**Крэмянец на Валыні.** Выйшаў новы праваслаўны двутыднёвік, выдаваны Валынскаю Духоўнаю Кансысторыяю паукраінску пад назовам: „Царква і Народ." Варшаўскае „Слово", дзеля таго, што на выдавецтва больш не атрымлівае субсыдыі, вельмі аслабела на сіле, а можа і зусім памрэ. Пэўна што ня будзе яго шкадаваць большасьць праваслаўных у Польшчы.

**Сельцы.** Зьмены на становішчах духавенства ўсходняславянскага абраду ў Падляскай епархіі.

1) Назначаныя: а. Аляксандар Прылуцкі, вікары парафіі Голя, назначаны настаяцелем парафіі Бубель;

а. Мікалай Шуманскі-Дабравольскі настаяцелем часова ў Кодні.

2) Перанесеныя: а. Мікалай Галас з парафіі Голя перанесены на парафію Полоскі, а. Аляксандар Нікольскі з Бубеля перанесены на настаяцеля да Голі.

**Зьмены сярод духавенства ўсходняга абраду ў Луцкай епархіі.** А. Іоан Гэрматюк, адміністратар парафіі Застаўе, перанесены на такое-ж становішча ў Краску. Адміністрацыя парафіі Застаўе да часу паверана а. Ільяну Гуку. А. Сэрафін Ярасевіч, адміністратар пар. Краска, атрымаў 3-месячны одпуск для папраўкі здароўя.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Гішпанія.** У гішпанскіх газэтах шмат пішуць аб усходнім абрадзе і аб унійнай працы. Пазнаёміў гішпанцаў з усходня-славянскім абрадам а. Мурыльлё Т. І. праф. Папскае Сэмінарыі ў Дубне. 6—16 сакавіка г. г. быў у Барцэлёне, 16—26 сакавіка ў Більбао, 27.IV.—10.IV адведаў Мадрыд, а 11—24.IV Сэвільлю. Усюды выгалошваў а. Мурыльлё рэфэраты аб унійнай працы ў Польшчы. Разам з а. Мурыль-

лё езьдзіць румынскі сьвяшчэньнік усходняга абраду А. Поп і ўсюды служыць усходнюю Сьв. Літургію, на якой заўсёды бывае натаўп людзей, шмат хто жадае прыняць Сьв. Прычасьце пад 2 відамі. Зацікаўленьне ў гішпанцаў унійнай працаю вялізарнае; сьведчыць аб гэтым факт, што многа аб ёй пішацца ў гішанскіх газэтах.

Дар князя Даўгарукага Папе Рымскаму. Князь Даўгарукі, прабываючы цяпер у Шанхаі, прыслаў Папе Рымскаму для Лятэранскага этнографічнага музэю цэнную колекцыю кітайскіх забыткаў вялікага мастацкага і гістарычнага зацікаўленьня. Асаблівае зацікаўленьне сярод іх выклікае колекцыя люстраў з пэрыоду дынастыі Хан (200 год перад Н. Хр.), дзьве бранзовыя ахвярныя чашы, трыножак і міса, дзе зьлівалася кроў ахвяраў. Апрача таго некалькі прадметаў вытачаных з разовага дрэва. У 1929 г. князь Даўгарукі прыслаў Пію XI, ў дзень яго юбілею, цэнныя кітайскія забыткі. і жадаў, каб іх зложыць у Лятэранскі музэй, а таксама абяцаў прыслаць колекцыю фарфору і фаянсу з часоў дынастыі Тангаў (750—960 п. Н. Хр.).

Папа асабіста напісаў князю Даўгарукаму пісьмо, ў каторым выразіў сваю ўдзячнасьць і захопленьне з прысланых рэчаў.

Лік апостальскіх япіскапстваў. Да 1934г. у цэлым каталіцкім сьвеце было 1154 япіскапстваў і 256 апостальскіх адміністратур. Сяньня ўжо япіскапстваў ёсьць 1197 а ап. адміністр. 266, так што за апошні год прыбыло новых 13 япіскапаў і адміністратараў.

Сьмерць апостальскага нунцыя ў Латвіі. У Рызе памёр на запаленьне лёгкіх мгр. Цэхіні, апостальскі нунцы, дзекан дыплёматычнага корпусу. Нунцы лічыў 70 гадоў.

Наймаладзейшы япіскап сьвету. У горадзе Брюкліне каля Нова-Ёрку высьвяцілі на япіскапа кс. Раймонда А. Kearney. Ён радзіўся ў 1902 годзе і ёсьць сяньня наймаладзейшым япіскапам сьвету і першым япіскапам, уроджаным у 20-тым стагодзьдзі.

---

# Усячына.

—Голад у Саветах. Ватыканская газэта „Osservatore Romano“ часта прыпамінала і цяпер прыпамінае аб голадзе ў Саветах. Усіх заахвочвае да помачы галодным, каб у гэтым не астацца ад жыдоў, якія дружна ў Зах. Эўропе арганізуюць помач сваім няшчасным братом у Расеі.

Газэта просіць усіх падтрымоўваць міжнародны камітэт помачы галадаючым у Расеі пад кіраўніцтвам венскага кардынала Інніцэра; гэты камітэт памагае галодным бяз розьніцы рэлігіі.

—Кітайскі князь жадае каталіцкіх місіянэраў. Князь кітайскага княжства Аляжану, прыналежнага ад 1922 г. да Апостальскага Вікарыяту Гантшоў, зьвярнуўся апошнімі днямі да Пэкіну просячы каталіцкіх місіянэраў у свой край.

—Адзін вураднік у Саветах у працягу пяцёх гадоў ажаніўся 58 разоў. Вось да чаго даводзяць разводы!

—Біблія ўжо перакладзена на 667 моваў. 223 пераклады належаць да афрыканскіх моваў, 204 да азіяцкіх, а 92 да моваў Эўропы. Па сваім распаўсюджаньні Сьвятое Пісьмо трымае першае месца на сьвеце.

—Рэлігіі народаў. На аснове апошніх аблічэньняў, усё чалавецтва паводле рэлігіяў дзеліцца вось як: каталікоў 406 мільёнаў, пратэстантаў з усімі сэктамі 225 міл., праваслаўных (усялякіх)152 міл., монофізытаў,монотэлетаў і інш. 10 міл.

Так, што хрысьціян розных рэлігіяў ёсьць 783 міл. Жыдоў ёсьць 14 з паловай міл., магамэтан 297 міл., парсаў 119 міл. Да рэлігіі Канфуцыя, Ляотсэ і бліжэйшых да іх — належыць 330 міл. Буддысты і шынтаісты лічаць 240 міл., да іншых паганскіх больш культурных рэлігіяў належыць 278 міл., а да найбольш пачатковых паганскіх рэлігіяў 88 міл., агностыкаў, вольнадумцаў ды іншых, каторыя ня маюць ніякай заўсёднай рэлігіі, ёсьць на цэлым сьвеце 37 мільёнаў.

—Небясьпека вайны блізка. Газэта „Eko de Pari“ апублікавала гутарку з б. прэзыдэнтам Францыі Думэргам. Ён заявіў: „Небясьпеку вайны лічу зусім недалёкаю. Таму трымаюся прынцыпу двохгадовай вайсковай службы. Францыя мае ўжо сыстэму гранічных умацаваньняў і добры паветраны флёт. Ёй яшчэ не стае добра выцьвічаных жаўнераў.“

А адносна саюзу Францыі з Саветамі п. Думэрг сказаў: „Саюзаў ніколі ня маем зашмат. І хоць ёсьць небясьпека ўзросту камуністычнай акцыі ў Францыі, але трэба патрапіць абараніцца.“ Думэрг падчыркнуў вялікае значэньне рымскіх дагавораў і ангельскага паразуменьня.

—Ссылка ў Сыбір 1074 асобаў. У апошнія дні арыштавалі ў Ленінградзе і выслалі ў Сыбір 1074 асобы за нарушэньне закону адносна месца пражываньня і пашпартоў. Сасланыя пераважна быўшыя арыстакраты, царскія вураднікі, капітатістыя, земляўласьнікі, жандары і паліцыянты.

—Кот у абароне сваей гаспадыні. Да памешканьня аднэй старой бабы ў Прэзе залез злодзей. І калі яна збудзілася, злодзей, кінуўшыся на яе, пачаў душыць. Аж раптам кот, скуль ні ўзяўшыся, скочыў на разбойніка і так страшна падзёр яго твар, што той шалеў, выючы з болю. Зьбегліся суседзі, пачуўшы нялюдзкае выцьцё, але не маглі адарваць ката ад няшчаснае ахвяры. Толькі на голас гаспадыні ўдалося разлучыць нечаканага абаронцу са злодзеем, каторы ад страшных ранаў за пару гадзін сканаў у шпіталі.

# Пісьмо з Эстоніі.

А цяпер пару слоў аб нашай працы. І вось перш за ўсё прытулак, каторы, дзякаваць Богу, што раз больш і што раз буйней разьвіваецца. Зглошаньняў шмат.

Ужо запісаных дзяцей маем 40, а месца толькі маем на 32. Але таму што некаторыя хварэюць на водру, то так-сяк, дастаўляючы сталочкі, памяшчаем з бядой усіх, абы толькі хоць трохі даць дзецям Бога — хоць трохі ушляхотніць іх дзіцячыя душы. Стараемся прымаць якнаймаладзейшых, каб якнайдаўжэй маглі аставацца пад нашым уплывам; але за тое-ж сколькі з імі клопату і працы — адзін Бог гэта ведае! І так, ніжэй трох гадоў маем сямёра, ад 3 да 4 гадоў—пяцёра, а рэшта—ад 5 да 7 гадоў.

Большасьць з іх — гэта рускія, крыху эстонцаў, каторыя часта ані ў зуб паруску – і дзеля таго яны ёсьць для мяне адначасна і вучыцелямі эстонскай мовы, бо ня маю часу асобна вучыцца гэтае мовы.

У палудзень дзеці дастаюць зупы з хлебам дасыта і гэта ёсьць для некаторых адзіным аджыўленьнем, бо ў хаце часта куска хлеба ня маюць. У буднія дні праца ў прытулку трывае ад 9 гадзіны раніцы да 3-цяй паўдня, а ў пярэдадні сьвятаў і ў сьвята да 1-й гадзіны з паўдня.

У сьвята дзеці ідуць на сьв. Літургію, хоць у меншым ліку, але зьбіраецца усё-ж такі шмат, напр. сяньня было разам са школьнымі 30 душ.

Ужо маем васьмёра нашых „прыхаджан“ якія чуць не штонядзелі прыступаюць да Сьв. Прычасьця і вельмі любяць прыходзіць да свайго „Божанькі.“

І яшчэ шмат чаго мілага можна было-б напісаць аб малых уцехах, але ўжо часу няма і пісьмо было-б задоўгае, і хацелася-б яшчэ пару слоў сказаць аб старэйшых.

Для старэйшай моладзі школьнай і пазашкольнай ладзім два разы ў тыдні двохгадзінныя курсы ручных работ.

Заўсёды пару дзесяткоў зьбіраецца, а да таго штодзень некаторыя прыходзяць браць корэпэтыцыі. Ледзь ня ўсе звычайна бываюць у нас на набажэнстве.

Нядаўна адзін капуцын а. Бэрнард з Дорпату высьветліваў абразкі на палатне. І вось што пры гэтым здарылася. Але каб было больш зразумелым, раскажу, адступлю крыху ўзад, апавяданьнем.

Некалькі месяцаў таму а. Бэрнард, выбіраючыся ў Рым, заехаў да нас у часе гадзіны ручных работ. Дзьве нядаўна прылучаныя да Кат. Царквы дзяўчынкі надта сардэчна прасілі а. Бэрнарда, каб ён пераказаў сьв. Айцу іхнюю любоў да Яго і радасьць, што яны ёсьць яго авечкамі. Мы сабе жартавалі з іхняй наіўнасьці, але а. Бэрнард абяцаў, як трэба, просьбу выпаўніць і прывязьці ім ад сьв. Айца багаслаўленьне. І запраўды гутарыў са сьв. заступнікам Хрыста на спэцыяльнай аўдыенцыі, атрымаў для іх багаслаўленьне і „Agnus Dei.“ Пасьля многіх клопатаў на граніцы, ўдалося аднак без аплаты перавязьці гэтага Божага баранчыка ў Эстонію.

Падарак быў з белага воску ў форме круглай іконы пад пукатым шклом з абодвух бакоў, а кругом залатыя ружы і кветкі, вырабленыя на беленькай істужцы. Дар выглядаў надта прыгожа. Так што калі а. Бэрнард, па высьвятляньні абразоў, паказаў падарак дзяўчынкам і ўсім бяз ліку сабраўшымся прысутным, захопленьню ня было меры. А сьв. Айцец надта-ж блізлім стаў для ўсіх. І шмат малых дзетак шкадавала, што не належаць да Кат. Царквы і што не атрымалі ад добрага сьв. Айца багаслаўленьня.

З таго часу і тыя дзеці, каторыя ўперад баяліся прыходзіць да нас, цяпер сьмела заўсёды прыходзяць на набажэнствы, а бацька гэтых дзяўчатак, хоць і баптысты і бедны, але сказаў, што за апошні грош справіць кіот для іконкі.

Такія вось нашыя ўцехі і радасьці ў нашай працы.

*Нягодная слуга ў Хрысьце. с. Ольга З.М.С.І.*

P. S. Забылася яшчэ дадаць аб тым, што кожнае сьвята зьбіраюцца да нас дзеці на так званую „нядзельную школу“. Пераважна толькі гуляюць ад 4 да 6-й, а пасьля ідзём на „Акафіст“. Некаторыя надта баяцца „Акафісту,“ але такіх ужо, дзякаваць Богу, ёсьць што раз меней.

Аднак-жа, як цяжка навярнуць — сколькі трэба трудоў і ахвяры, каб ласка Божая парушыла душу да праўды. І дзеля таго трэба быць аружжам у руках Бога, а мне яшчэ да гэтага шмат не стае.

Але ў Богу надзея!

Слава Ісусу Хрысту! *с. О.*



# Календар

на м—ц Красавік 1935 г.

| **Стары стыль** | | | | | | **Новы стыль** |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | | | | Kal.niadz. i światy łac. abr. |
| 1 | Н | **Н. 5 В. п. Марыі Эгіп.** | 14 | N | | **Wierbnica. Uw. I. Ch. ŭ J.** |
| 2 | П | Ціта, мч. Палікарпа | 15 | P | | Wasila i Nastaśsi |
| 3 | А | Мікіты Спаведн. | 16 | A | | Benedykta, Jazepa Labre |
| 4 | С | Язэпа Песьняп. і Юрыя | 17 | S | | Aniceta, Rudolfa |
| 5 | Ч | Мчч. Феадула і Агаф. | 18 | Č | | *Wial. Čaćw.*, Bahumiła |
| 6 | П | Сьв. Мяфода вуч. Слав. | 19 | P | | *Wial. Piatn.*, Hermahiena |
| 7 | С | Рыгора Спав., Лаз. Суб. | 20 | S | | *Wial. Sub.*, Todara i Ahn. |
| 8 | Н | **Вербніца. Ув. Госп. ў Е.** | 21 | N | | **Wialikdzień.** Anzelma |
| 9 | П | Мч. Эўпсіхея | 22 | P | | **2-hi dz. Wial.** Sot. i Kaja |
| 10 | А | Мчч. Цяр., АФ., Макс. | 23 | A | | *Juryja.* Wajciecha. |
| 11 | С | Мчч. Антыпы, Пр. і М. | 24 | S | | Fidelisa |
| 12 | Ч | Васілія спаведн. | 25 | Č | | Marka Ewanhielistaha |
| 13 | П | *Вялікая Пятн.*, Артэм. | 26 | P | | Kleta i Marcelina |
| 14 | С | *Вял. Суб.*, Марціна Пап. | 27 | S | | Piotry Kanta i Teafila |
| 15 | Н | **Вялікдзень. Сьв. Хр. Ўв.** | 28 | N | | *Prawodnaja.* Paŭła ad K. |
| 16 | П | *Съветлы Панядв.* Мц. Аг. | 29 | P | | Piotry z Werony. Roberta |
| 17 | А | „ *Аўтор.*, Сымона, Ак. | 30 | A | | Kaciaryny Senenskaj |
| | | | | | | TRAWIEŃ |
| 18 | С | „ *Серада*, Іоана Кузьм. | 1 | S | | Ap. Pilipa i Jakuba |
| 19 | Ч | „ *Чацьв.*, Іоана, Стар. | 2 | Č | | Žyhimonta, Apanasa |
| 20 | П | „ *Пятніца*, Хвед. Тр. | 3 | P | | **Znachod Św. Kryža** |
| 21 | С | „ *Субота*, Януарыя | 4 | S | | Moniki |
| 22 | Н | **Н. 2 аб Фаме, Правод.** | 5 | N | | Piusa V, Ireny |
| 23 | П | Вялікамуч. Юрыя | 6 | P | | Jana ŭ Alei |
| 24 | А | Мч. Савы Страцілата | 7 | A | | Floryjana, Damiceli |
| 25 | С | Ап. і Эванг. Марка | 8 | S | | Stanisława |
| 26 | Ч | Васілія яп. Амасійск. | 9 | Č | | Ryhora |
| 27 | П | Сымона Ерус. сваяка Г. | 10 | P | | Antanina, Izydara |
| 28 | С | Апп. Іасона і Сасіпатра | 11 | S | | Franciška i Mamerta |
| 29 | Н | **Н. 3 Жанч. Міраносіцаў** | 12 | N | | Pankrata |
| 30 | П | Ап. Якава, Даната. | 13 | P | | Serwacyja |

*Przesyłka opłacona ryczałtem*

# Календар

на м—ц Травень 1935 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | А | Прар. Ерамії | 14 | A | Banifacyja |
| 2 | С | Апанаса Вял., Бар. і Гл. | 15 | S | Jana dela Sal. Zofii |
| 3 | Ч | Хвядоса Пячэрскага | 16 | Č | Jana Nep., Andreja Bab. |
| 4 | П | Палагеі, Сільвана | 17 | P | Weroniki, Paschalisa |
| 5 | С | Мчц. Ірыны | 18 | S | Wenanta, Feliksa |
| 6 | Н | **Н. 4 аб Расслаб.**, І. Мн. | 19 | N | Piotry Celestyna |
| 7 | П | Зн. Кр. Госп. ў Ерус. | 20 | P | Bernardyna z Sieny |
| 8 | А | Іоана Багаслова | 21 | A | Cimachwieja i taw. muč. |
| 9 | С | Ісайі, Пер. мошч. сьв. М. | 22 | S | Julii, Aleny |
| 10 | Ч | Ап. Сімана Зілота | 23 | Č | Dezyderyja |
| 11 | П | Мяфода і Кірылы вуч. С. | 24 | P | **M.B. Usp. Wiern.**, Zuzan. |
| 12 | С | Эпіфана і Германа | 25 | S | Ryhora VII papy |
| 13 | Н | **Н. 5 аб Самар.**, Глікерыі | 26 | N | Pilipa |
| 14 | П | Сідара, Сэрапіёна | 27 | P | Bedy, Jana pap. |
| 15 | А | Пахома В., Эўфрасіньні | 28 | A | Aŭhustyna |
| 16 | С | Тодара Асьвяч. | 29 | S | Maryi Mahdaleny d. P. |
| 17 | Ч | Андроніка | 30 | Č | **Ušeście Hosp.**, Ferdyn. |
| 18 | П | Феадота | 31 | P | Anieli |
| | | | | | ČERWIEŃ |
| 19 | С | Патрыкія | 1 | S | Jakuba |
| 20 | Н | **Н. 6 аб Сьляпым,** Фал. | 2 | N | Sadoka i tawaryš. muč. |
| 21 | П | Канстант. і Алены | 3 | P | Erazma, Klatyldy |
| 22 | А | Васіліска | 4 | A | Franciška, Saturnina |
| 23 | С | Міхала Спаведн. | 5 | S | Banifacyja, Waleryja |
| 24 | Ч | **Узьнясеньне Госпадава** | 6 | Č | Narberta, Klaŭdyja, Paŭl. |
| 25 | П | Знах. гал. Іоана Хрысьц. | 7 | P | Roberta |
| 26 | С | Ап. Карпа. | 8 | S | *Wialeja,* Medarda |
| 27 | Н | Н. 7 **сьвв. Айцоў 1 С. С.** | 9 | N | **Zychod Św. Duch.** (*Siom.*) |
| 28 | П | Мікіты яп. Халкідон. | 10 | P | **2-hi dz. Siomuchi.** M. i B. |
| 29 | А | Хвядосьсі | 11 | A | Barnaby Apostała |
| 30 | С | Ісаака Далмацк. | 12 | S | *Suchi dz.* Jana z Fakundy |
| 31 | Ч | Ерма мч., Ермія ап. | 13 | Č | Antona z Padui. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.